## «МЫ ПАДЫШЛІ ДА ВЫЗНАЧЭННЯ ПЕРСПЕКТЫЎ НАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

«Мы сёння падышлі да вызначэння перспектыў палітыкі нашай дзяржавы, — сказаў на сустрэчы з прадстаўнікамі працоўнага калектыву Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. — Таму вельмі сур'ёзна адносімся да працэсаў узаемаўвязкі інтарэсаў не толькі прадпрыемстваў рэспублікі, але і інтарэсаў беларускага і расійскага народаў. Вынік у наяўнасці. Нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы працуюць стабільна. На аўтазаправачных станцыях ёсць неабходныя нафтапрадукты. Своечасова вырашаюцца праблемы з мазутам. Ды і людзі забяспечаны работай».

Аляксандр Лукашэнка адзначыў асаблівую ролю нафтавай галіны, якая з'яўляецца важнейшай у народнай гаспадарцы, і выказаў задавальненне наконт таго, што справы тут ідуць нядрэнна. «Мы павінны глядзець наперад, — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, — каб галіна не толькі не страчвала свае пазіцыі, але і паступова актыўна развівалася». Ён таксама заўважыў, што продаж, прыватызацыя, акцыяніраванне, арэнда, любая іншая форма гаспадарання павінна быць выбрана толькі самім працоўным калектывам, зацверджана ў галіновым міністэрстве і ўзгоднена з мясцовымі органамі ўлады. Як высветлілася, па рашэнню калектыву Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода акцыі паміж расійскай кампаніяй «Слаўнафта» і самім прадпрыемствам размеркаваны амаль пароўну.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## РЫХТУЕЦЦА СЕМІНАР ПА ЗАМЕЖНЫХ ІНВЕСТЫЦЫЯХ

**Міністэрствам знешніх эканамічных сувязей разам з Акадэміяй экспарту зямлі Бадэн-Вюртэмберг (ФРГ) распрацаваны праект павышэння кваліфікацыі кадраў у сферы знешнеэканамічнай дзейнасці.**

Праект фінансуецца ўрадам Германіі. У рамках яго рэалізацыі ў лістападзе мінулага года ў Гродне праведзены семінар на тэму «Міжнародныя эканамічныя адносіны».

*У рамках гэтага ж праекта плануецца правядзенне яшчэ трох семінараў, бліжэйшы з якіх — «Замежныя інвестыцыі: прыцягненне і эфектыўнае выкарыстанне», адбудзецца з 29 па 31 студзеня 1996 года.*

**Ларыса ДОЛІНА.**

## АДБЫЛОСЯ ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ АМЕРЫКАНСКАЙ ГАНДЛЁВАЙ ПАЛАТЫ Ў БЕЛАРУСІ

**24 студзеня 1996 года ў Мінску адбылося першае штомесячнае пасяджэнне Амерыканскай гандлёвай палаты, якая ў Беларусі была афіцыйна заснавана ў снежні 1995 года.**

Пасол ЗША ў Беларусі Кенет Яловіц падчас свайго выступлення на пасяджэнні заклікаў дзелавых людзей да сумеснай работы па накірунках, якія ўяўляюць узаемную цікавасць, з мэтай забеспячэння прытоку замежных інвестыцый у Беларусь.

Мэтай Амерыканскай гандлёвай палаты ў Беларусі з'яўляецца садзейнічанне развіццю эканамічных адносінаў паміж нашай рэспублікай і ЗША, пошук канструктыўных рашэнняў праблем у гандлі, прадстаўленне і абарона агульных эканамічных інтарэсаў членаў палаты, збор і прадстаўленне ім інфармацыі па пытаннях гандлю, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, тэхналогій, падаткаабкладання і іншых, якія маюць дачыненне да такой дзейнасці. Членства ў Амерыканскай гандлёвай палаце адкрыта для ўсіх юрыдычных асоб Беларусі з поўным ці частковым удзелам амерыканскага капіталу.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ЦІ СТАНЕ НАВІНКА «КРЫШТАЛЯ» НАРОДНАЙ ГАРЭЛКАЙ?

**З сённяшняга дня асартымент айчынных спіртных напояў пашырыўся: мінскі вінна-гарэлачны завод «Крышталь» пачаў выпуск белай гарэлкі з лірычнай назвай «Два буслы».**

Выпуск навінкі «Крышталь» наладзіў не выпадкова. Па словах яго генеральнага дырэктара Мікалая Бялко, гарэлка "Два буслы" павінна замяніць на беларускім рынку спіртнога «Рускую». І прычын тут некалькі. Па-першае, назва «Руская» належыць Маскве, адкуль ужо неаднаразова чуліся папрокі наконт выкарыстання ў рэспубліцы вядомай маркі. Па-другое, выпуск «Двух буслоў» у пэўнай ступені дазволіць абараніць пакупнікоў ад падробак, якія выпускаюцца ў асноўным пад назвай «Руская», якая, дарэчы, на «Крышталі» пакуль выпускацца не будзе. І нарэшце, зазначыў Мікалай Трафімавіч, новая гарэлка будзе значна таннейшая за «Рускую», а па якасці намнога лепшая, паколькі ў аснове яе прыгатавання ляжыць спірт вышэйшай ачысткі і вада, апрацаваная крэменем. Да таго ж, уся гэтая спіртавая вадкасць праганяецца праз вугальныя каналы і становіцца надзвычай празрыстай. І яшчэ адна немалаважная дэталь: солі цяжкіх металаў у крамянёвай вадзе адсутнічаюць.

Генеральны дырэктар «Крышталя» ўпэўнены, што ўсе гэтыя вартасці навінкі плюс прыгожае афармленне вінтавой бутэлькі зробяць гарэлку «Два буслы» сапраўды народнай гарэлкай, якая будзе даступнай людзям па цане, да таго ж высокай якасці.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## «МОНСТРЫ ВАКОЛ НАС»

**З унікальнай выстаўкай-атракцыёнам, якая мела поспех у 160 гарадах ЗША і Еўропы «Монстры вакол нас», цяпер маюць магчымасць пазнаёміцца і жыхары Беларусі. Выстаўка будзе праходзіць у Мінску ў кінатэатры «Перамога».**

На выстаўцы дэманструюцца разнастайныя механічныя насякомыя, павялічаныя да каласальных памераў. Жукі і павукі, конікі і стракозы — усе гэтыя насякомыя паўстануць перад наведвальнікамі монстрамі-веліканамі, якія будуць рухацца, капашыцца і выдаваць гукі. 14 атракцыёнаў дадуць магчымасць тым, хто прыйдзе на выстаўку, ператварыцца ў «казявак» і адчуць сябе маленькімі сярод гэтых жудасных монстраў. Дададзім да ўсяго, што выстаўка адчыніць дзверы ўжо 30 студзеня.

**Ігар РЫГОРАЎ.**

## НА ДАРОГАХ КРАІНЫ

**За 1995 год у нашай рэспубліцы адбылося 7268 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінуў 1781 чалавек і яшчэ 7457 — паранена. У стане алкагольнага ап'янення дарожна-транспартныя здарэнні ўчынілі 886 вадзіцеляў.**

Самымі недысцыплінаванымі на дарогах аказваюцца ўладальнікі індывідуальных транспартных сродкаў. Па іх віне ўчынены 2982 ДТЗ, 793 чалавекі загінулі і 3538 паранены. У нецвярозым стане «прыватнікамі» ўчынена 529 дарожных здарэнняў. Самая нізкая аварыйнасць у горадзе Мінску, Віцебскай і Магілёўскай абласцях.

Па-ранейшаму вельмі шмат парушальнікаў дарожных правілаў сярод пешаходаў, якія сталі «ініцыятарамі» 1899 ДТЗ. Загінулі 370 чалавек, атрымалі траўмы — 1588.

**Пётр РАБКАВЕЦ,**
**прэс-цэнтр МУС Рэспублікі Беларусь.**

## АКЦЫЯ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Учора ў першай палове дня некалькі дзесяткаў чалавек пад бела-чырвона-белымі сцягамі правялі пікетаванне будынкаў Мінгарвыканкома і Галоўпаштамта. Гэта акцыя была праведзена ў знак пратэсту супраць падпісання пагадненняў з некаторымі расійскімі кампаніямі, згодна з якімі вялікая колькасць акцый Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода і аб'яднання «Нафтан», уключаючы Напаполацкі НПЗ і заводы нафтахіміі, адышлі расійскім кампаніям «Лукойл» і «ЮКОС».

**Сяргей ПРОТАС.**

*СПОРТ-ЭКСПРЭС*

## ШАНЦАЎ ПРАКТЫЧНА НЯМА

**У Барселоне працягваецца кваліфікацыйны турнір па хакею на траве з удзелам васьмі каманд.**

На жаль, беларускай камандзе ў гэтых спаборніцтвах амаль нічога ўжо "не свеціць". Наша зборная прайграла чацвёрты матч запар. Апошняе паражэнне ёй нанесла зборная Індыі з лікам 0:2. Цяпер, каб мець тэарэтычныя шанцы на права заняць хаця б пятае месца, якое дазваляе ехаць у Атланту, беларусам неабходна выйграць у зборных Бельгіі, Канады і Галандыі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Продаж валюты абавязковы і 100-працэнтны

**На прайшоўшай нарадзе з кіраўнікамі камерцыйных банкаў выконваючы абавязкі старшыні праўлення Нацыянальнага банка Мікалай Кузьміч заявіў, што Указ Прэзідэнта «Аб некаторых мерах па ўдасканаленню грашова-крэдытнай палітыкі» будзе змешчаны ў друку ў бліжэйшы час.**

У гэтай сувязі банкірам быў прапанаваны для абмеркавання механізм рэалізацыі ўказа ў выглядзе інструкцыі «Аб парадку абавязковага продажу паступленняў у замежнай валюце на рахункі суб'ектаў гаспадарання Рэспублікі Беларусь», распрацаванай спецыялістамі Нацбанка.

Як вынікае з гэтага дакумента, суб'екты гаспадарання ўсіх формаў уласнасці абавязаны з дня апублікавання ўказа прадаваць на валютнай біржы 100 працэнтаў паступленняў у свабодна канверсуемай валюце і расійскіх рублях. Пры гэтым яны будуць плаціць збор у памеры 10 працэнтаў ад кантрактнага кошту ўвозімых тавараў ці разліковай выручкі ў дзяржаўны фонд падтрымкі экспарцёраў.

Інструкцыя рэгламентуе тэрмін абавязковага продажу валюты на біржы, (а гэта павінна быць зроблена на працягу 60 дзён з моманту яе паступлення на рахунак), вызначае выпадкі не абавязковага продажу валютных паступленняў і іх спісання, а таксама кантроль і меры адказнасці за парушэнне ўстаноўленага парадку продажу валюты.

**Алесь МАКОЎСКІ,**
**прэс-служба Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.**

## БЕЛАРУСЬ, МАГЧЫМА, БУДЗЕ ПРЫНЯТА Ў САВЕТ ЕЎРОПЫ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ

**«Працэдура ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы (СЕ) практычна можа завяршыцца ў бягучым годзе ці ў пачатку наступнага, хаця з тэхнічнага боку можна было б гэта ажыццявіць ужо будучай восенню», — заявіў журналістам на брыфінгу 25 студзеня міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько.**

Па яго словах, галоўная ўмова — правядзенне дэмакратычных парламенцкіх выбараў — Беларуссю ўжо выканана. Наступны, не менш важны этап, — падпісанне Канвенцыі аб правах чалавека. Эксперты СЕ ажыццяўляюць працэдуру вывучэння беларускага заканадаўства на прадмет яго адпаведнасці еўрапейскім. Ужо прайшлі адпаведную экспертызу законы аб выбарах, аб сродках масавай інфармацыі. Як ужо паведамляў БелаПАН, зараз у Страсбургу па запрашэнню Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы знаходзіцца беларуская парламенцкая дэлегацыя. Паводле звестак з МЗС, там жа працуе яшчэ адна дэлегацыя з Беларусі, на чале з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Русакевічам, які, дарэчы, узначальвае міжведамасную камісію па справах, звязаных з прыняццем Рэспублікі Беларусь у Савет Еўропы. На бліжэйшым тыдні чарговая дэлегацыя СЕ прыбудзе ў Беларусь для далейшай працы.

Уладзімір Сянько выказаў задавальненне тым, што ў Вярхоўным Савеце створана і пачала сваю дзейнасць парламенцкая Камісія па міжнародных справах, якая, як ён спадзяецца, будзе спрыяць не толькі актывізацыі знешнепалітычнай дзейнасці Беларусі, але і стварэнню больш пазітыўнага іміджа рэспублікі за мяжой.

**Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**● РАСІЙСКІ БОК ПРЫ ПАДЛІКАХ ПАМЫЛІЎСЯ НА АДНАГО ЗАЛОЖНІКА**

Як паведаміў афіцыйны прадстаўнік Чачні Удугаў карэспандэнту «Бі-бі-сі», у сераду ў чачэнскім пасёлку Навагрозненскі былі вызвалены 45 заложнікаў, якіх захапіў атрад Радуева ў Кізляры і Першамайскім. ІТАР—ТАСС і Інтэрфакс паведамляюць аб 46 вызваленых. Заложнікі былі перададзены прадстаўнікам грамадскіх арганізацый Дагестана, якія гарантавалі ім бяспеку. Усе вызваленыя заложнікі прыбылі ў Дагестан. У руках чачэнцаў застаецца прыблізна 20 расійскіх АМАНаўцаў. Чачэнскія апалчэнцы згаджаюцца адпусціць АМАНаўцаў пасля таго, як загінуўшыя чачэнскія байцы, будуць пахаваны. Згодна з інфармацыяй ІТАР—ТАСС, цэлы 42 чачэнскіх байцоў павінны былі быць перададзены чачэнцам учора ў абмен на АМАНаўцаў, аднак перадача цел зацягваецца з-за праблем з апазнаннем.

**● БАЛТЫЯ СУПРАЦЬ УСТУПЛЕННЯ РАСІІ Ў ЕС**

Парламенцкая асамблея Савета Еўропы пачала ў Страсбургу абмеркаванне заяўкі Расіі на ўступленне ў арганізацыю. Савет Еўропы быў створаны ў 1949 годзе з мэтай умацавання дэмакратычных свабод і абароны правоў чалавека на еўрапейскім кантыненце. У Савет уваходзяць 38 краін. Шэраг прадстаўнікоў ЕС крытычна паставіліся да метадаў вырашэння Расіяй канфлікту ў Чачні. Дзяржавы Балтыі заклікалі Савет Еўропы не прымаць Расію на падставе незахавання ёю правоў чалавека. Разам з тым такія дзяржавы, як Германія і Францыя, лічаць, што членства Расіі будзе садзейнічаць дэмакратычным працэсам у гэтай краіне.

**● АЛЕКСЫ ПАДАЕ Ў АДСТАЎКУ**

Прэм'ер-міністр Польшчы Алексы заявіў па тэлебачанні, што падасць прашэнне аб адстаўцы прэзідэнту краіны Аляксандру Квасьнеўскаму. Рашэнне аб адстаўцы было прынята Алексы пасля таго, як ваенная пракуратура аб'явіла аб афіцыйным пачатку следства па падазрэнню яго ў супрацоўніцтве з савецкімі, а потым расійскімі спецслужбамі на працягу апошніх 13 гадоў. Алексы адмаўляе абвінавачванні ў шпіянажы і лічыць, што яны сфабрыкаваны прыхільнікамі экспрэзідэнта Валенсы, які прайграў выбары былому камуністу Квасьнеўскаму. Расійскае МУС і разведка таксама адмаўляюць інфармацыю аб супрацоўніцтве з Алексы.

**● ВЫБУХІ Ў КАЗАРМАХ МІРАТВОРЧЫХ СІЛ НАТО**

Трое вайскоўцаў міратворчага кантынгента НАТО, двое партугальцаў і італьянец былі забіты ў сераду вечарам у Сараеве ў выніку выбуху, які адбыўся ў адной з казарм. Прадстаўнік італьянскіх сіл паведаміў, што размова ідзе хутчэй за ўсё аб ненаўмысным выбуху. Яшчэ сем вайскоўцаў атрымалі раненні. Гэта найбольш сур'ёзнае здарэнне са снежня мінулага года, калі пачалося размяшчэнне міратворчых сіл НАТО ў Босніі. У гэты ж дзень другім выбухам былі паранены тры вайскоўцы французскага кантынгента.

**● СТАТУС ЗАХОДНЯГА БЕРАГА ІАРДАНА ВЫЗНАЧАЦЬ У МАІ**

Ізраільскі прэм'ер-міністр Перэс і кіраўнік палесцінскай аўтаноміі Ясір Арафат сустрэліся ўчора ў сектары Газа. Гэта іх першая сустрэча пасля перамогі Арафата на палесцінскіх выбарах у мінулую суботу. У сваім выступленні адразу пасля сустрэчы Арафат заявіў, што яго марай з'яўляецца стварэнне палесцінскай дзяржавы. Па словах Перэса, Ізраіль выступае за стварэнне палесцінска-іарданскай федэрацыі. Згодна з ізраільска-палесцінскімі мірнымі пагадненнямі, перамовы аб вызначэнні канчатковага статусу заходняга берага Іардана, сектара Газа і Іерусаліма павінны пачацца ў маі.

**● КАБУЛ ПОЎНАСЦЮ БЛАКІРАВАНЫ**

На працягу двух бліжэйшых тыдняў у Кабуле можа скласціся катастрафічнае становішча з прадуктамі харчавання і палівам у выпадку, калі апазіцыйныя сілы, якія вядуць асаду сталіцы Афганістана, не разблакіруюць дарогі. Кабул узяты ў кальцо «талібамі». На мінулым тыдні другая апазіцыйная групоўка перарэзала апошнюю магістраль, якая звязвала горад з навакольным светам.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

*ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

На працягу некалькіх дзён клапатліва даглядалі дзве сланіхі захварэўшага слана ў індыйскім запаведніку (паўночна-ўсходні штат Арыса) і, магчыма, выратавалі яго ад галоднай смерці. Увесь час, пакуль з-за пухліны на пярэдняй назе 45-гадовы самец не мог рухацца і бездапаможна ляжаў пад дрэвам непадалёк ад пасёлка Чоулджхары, яны прыносілі яму галінкі дрэў для ежы, набіралі ў рэчцы ваду ў хобаты і палівалі яго. Калі на дапамогу гіганту прыйшлі людзі, сланіхі з пачуццём выкананага абавязку пайшлі ў суседні лес.

**ІТАР—ТАСС.**

*Работніку АТ «Пермскія маторы» Генадзю Бухараву выдалі ў касе па памылцы 1,5 млн. рублёў замест 150 тысяч. Калі на наступную раніцу Бухараў выявіў, што яму пераплацілі, ён сумленна вярнуў грошы касірцы. Самае цікавае ў тым, што гэтыя 1,5 млн. ён атрымаў зноў. Паколькі прадпрыемства завінавацілася перад работнікамі па зарплаце, у тым ліку перад Бухаравым, — якраз на суму, выдадзеную яму памылкова, то там вырашылі ўзнагародзіць чалавека, пакінуўшы гэтыя чэсна зробленыя ім грошы за ім. Дададзім, што год таму, пасля таго як Бухараў купіў і ўжо прывёз дадому мэблю, работнікі магазіна прапанавалі яму памылкова «забраць нарэшце свой гарнітур». Ад падарунка ў выглядзе другога камплекта Генадзь, як чэсны чалавек, адмовіўся.*

**ВЕТА.**

Своеасаблівую «вялікую кітайскую сцяну» будуюць на мяжы з Мексікай улады ЗША. Шматкіламетровыя заслоны з металічных трохметровых шчытоў пабудаваны на памежных участках у штатах Нью-Мексіка, Арызона, Каліфорнія і Тэхас. Тлумачаць амерыканскія ўлады гэтыя меры растучым патокам нелегальных іміграптаў з суседняй краіны.

**«Шпігель».**

*ПАСОЛЬСКІ КЛУБ*

## Ілья ВЕЛЬДЖАНАЎ:

## «Туркменістан і Беларусь — эканамічна ўзаемавыгадныя партнёры»

**Параўнальна нядаўна ў сталіцы нашай дзяржавы пачаў працаваць Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Туркменістана ў Рэспубліцы Беларусь Ілья Вельджанавіч Вельджанаў. Праўда, гэтае «нядаўна» тычыцца толькі новай яго пасады. Жыве на Беларусі Ілья Вельджанавіч з 1984 года. У свой час генерал-лейтэнант Вельджанаў займаў высокую пасаду ў службова-генеральскай іерархіі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Апошнім часам наш суразмоўца з'яўляўся пастаянным прадстаўніком Туркменістана ў СНД.**



**— Ілья Вельджанавіч, Туркменістан — з тых дзяржаў СНД, якія сённяшнім днём маюць усе падставы забыцца на колішнюю дружбу народаў і павярнуцца тварам у другі бок. Ёсць жа свае рэгіянальныя, скажам так, прыярытэты...**

— Вы памыляецеся, калі маеце на ўвазе адсутнасць патрэбы ў фарміраванні, развіцці эканамічных, палітычных зносінаў паміж Туркменістанам і Беларуссю. Я не баюся праслаўіцца як рэтраград, звярнуўшыся да ўчарашняга, няхай сабе і савецкага, гістарычнага вопыту. Вы азірніцеся на 50—70—80 гадоў назад. Здавалася б, што ўжо можа быць далей адно ад аднаго, як Туркменістан і Беларусь. А ў першую імперыялістычную ў Лунінецкім раёне ў адной ваенна-будаўнічай дружыне з Аляксандрам Блокам служылі паважаныя аксакалы з туркменскіх аулаў. Пра гэта хораша напісаў ваш беларускі літаратар Мікола Калінковіч. Дарэчы, ён нейкі час жыў у Ашхабадзе.

**— Безумоўна, калі мець на ўвазе гісторыю, то многае што можна ўспомніць. Нават і тое, што сярод 9 ашхабадскіх камісараў двое беларусаў — Сяргей Малібожка і Барыс Тузін. Але ж гэта яны якраз дапамагалі ўсталёўваць Савецкую ўладу ў Закаспіі, а пра гэта сёння як быццам і не з рукі гаварыць.**

— І дарэмна. Гісторыя іншай быць не можа, хаця б ужо таму, што яна гісторыя, дзень учарашні. І пра Малібожку ды Тузіна забываць не трэба. Імкнучыся працаваць на будучыню, яны мелі на ўвазе толькі добрыя і светлыя ідэалы. Ужо за гэта туркмены абавязаны выказаць ім шчырую ўдзячнасць. А на Беларусі... Многія з воінаў-туркменістанцаў званнем Героя Савецкага Саюза ўшанаваны якраз за подзвігі на беларускай зямлі. Ва Уруччы, у вайсковым гарадку, устаноўлены скульптурны партрэт Івана Васільевіча Багданава. Сваю правую руку ён страціў у баях за Ваўкавыск. Адна з вуліц Мінска носіць імя другога воіна-туркменістанца — Араза Анаева. Дарэчы, аб тым, колькі туркменаў ваявала на беларускай зямлі, вы можаце меркаваць і самі. Газета Заходняга фронту (а пазней яго часці ўліліся ў другі і трэці Беларускія франты) «Красноармейская правда» выдавалася і на туркменскай мове. А яе супрацоўнік Анакулі Маметкулиеў напісаў ці не першы літаратурна-мастацкі твор пра Канстанціна Заслонава. Яшчэ ў час вайны паэма была выдадзена асобнай кніжкай.

Другая старонка ў гісторыі сувязей Беларусі з нашай каракумскай староной — ашхабадскі землятрус, удзел беларусаў у аднаўленні разбуранага горада. Так што нам ёсць што ўспомніць, нам ёсць што ўмацоўваць. Мы зусім не чужыя, і не такія ўжо далёкія адна ад адной нашы краіны.

**— Колькі слоў пра Туркменістан сённяшні...**

— Карыстаючыся нагодай, хацеў бы падзякаваць Беларусі за падтрымку ў прыняцці рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН «Пастаянны нейтралітэт Туркменістана». Гэта важнае рашэнне абумоўлівае прызнанне светам нейтралітэту нашай краіны, як пастаяннага па форме, так і не абмежаванага ў часе і дзеючага як у ваенны, так і ў мірны час.

Згодна са статусам пастаяннага нейтралітэту Туркменістан адмаўляецца ад прымянення сілы ці пагрозы яе прымянення, а таксама ад уціску інтарэсаў іншых дзяржаў у любых формах. Як пастаянна нейтральная дзяржава прымае на сябе абавязацельствы ніколі не распачынаць войны, не ўдзельнічаць у вайне (акрамя выпадкаў самаабароны), устрымлівацца ад палітыкі дыпламатычных альбо іншых дзеянняў і крокаў, здольных прывесці да вайны ці канфлікту. Туркменістан не ўваходзіць у ваенныя саюзы і блокі, у міждзяржаўныя альянсы з жорсткай рэгламентацыяй функцый альбо тыя, што маюць на мэце калектыўную адказнасць. Мы ніколі не будзем мець, займацца вытворчасцю альбо распаўсюджваць ядзерную, хімічную, бактэрыялагічную і іншыя віды зброі масавага паражэння, садзейнічаць стварэнню новых відаў і тэхналогій іх вытворчасці.

**— Знешнепалітычны партрэт Туркменістана вы намалявалі, а што з унутраным зместам... У якім стане знаходзіцца сёння эканоміка краіны?**

— Ашгабат, гарады краіны, увесь Туркменістан — усё мяняецца да лепшага. У сталіцы пабудаваны цудоўны аэрапорт, новыя гатэлі. Будуюцца з удзелам замежных інвестараў новыя перапрацоўчыя прадпрыемствы.

**— Наколькі, дарэчы, актыўна ўдзельнічае замежны капітал у пераўтварэннях, што адбываюцца сёння ў Туркменістане?**

— Вельмі актыўна. У нас працуюць турэцкія, амерыканскія кампаніі. Будаўніцтвам, уводам у вытворчасць новых тэхналогій займаюцца шведы, фіны, французы. І прычым у самых галоўных галінах. Вы, канешне, ведаеце, што ў нас сапраўдныя лішкі электраэнергіі. Зараз мы штогод здабываем каля сарака мільярдаў кубаметраў газу. Краіне дастаткова недзе ўсяго толькі пяці працэнтаў ад здабычы. Астатняе — на продаж. Зараз будуецца вельмі магутны газаправод. Пакупнікамі газу стануць Індыя, Ірак, Турцыя, а праз іх тэрыторыю — Англія, ЗША. Будуюцца дзве чыгункі. Адна — уздоўж Каспія праз Іран да Персідскага заліва. Другая — па ўсходняй граніцы праз Кушку, Афганістан, Пакістан да Бенгальскага заліва. Уявіце сабе, наколькі больш свабоднымі мы станем у гандлёвых зносінах. Можа, адкрыццё гэтых чыгунак паспрыяе і гандлёваму супрацоўніцтву з Беларуссю?

**— Ілья Вельджанавіч, і ўсё ж такі пра газ.. Фактычна 90—95 працэнтаў яго здабычы Туркменістан экспартуе. Наколькі ёсць шанц у Беларусі стаць у гэтай сферы зносінаў вашым пастаянным партнёрам?**

— Летась было створана акцыянернае таварыства «Туркменросгаз». Туркменістан сёлета пастаўляе на свае граніцы 45 мільярдаў кубаметраў газу па цане 42 долары за 1 кубаметр — вышэйзгаданаму акцыянернаму таварыству. Яно ж пасля распаўсюджвае гэты газ. Недзе больш як 20 мільярдаў — Украіне, 6 мільярдаў — на Каўказ, 1 мільярд — Малдове. Беларусі — 2 мільярды. Па якой цане? Пра гэта трэба дамаўляцца з «Туркменросгазам». Думаю, што цэны ўсё ж будуць ніжэй за сусветныя.

**— Магчыма эканамічнае супрацоўніцтва Беларусі і Туркменістана і па іншых накірунках?**

— Несумненна. Перакананы, што Туркменістан і Беларусь эканамічна ўзаемавыгадныя партнёры. Пакуль што нашы эканамічныя рэйкі толькі наладжваюцца. Але з часам, мяркую, цягнікі па іх будуць інтэнсіўна хадзіць у абодва бакі. Мы плануем адкрыць на Беларусі наша эканамічнае прадстаўніцтва. Ужо сёння можна з упэўненасцю сказаць, што Туркменістан стане пакупніком вашых трактароў, уборачных камбайнаў, іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, велікагрузных самазвалаў. І гэта толькі пачатак.

Для шырокамаштабнага эканамічнага супрацоўніцтва трэба падрыхтаваць пакет дакументаў, трэба ўважліва прыгледзецца, дзе могуць судакранацца нашы эканомікі.

**— Напэўна, нашы ўрады, а магчыма, і камерцыйныя структуры абедзвюх краін зацікавяцца гандлем сельскагаспадарчай прадукцыяй?**

— Мяне ўразіў нядаўна адзін выпадак, калі па дапамогу ў набыцці беларускай бульбы звярнулася расійская фірма. Аказваецца, што даволі буйную пастаўку «другога хлеба» камерсанты ажыццяўлялі для Туркменістана. А чаму тады гэту нішу на рынку не занялі самі беларусы альбо туркмены? Наша краіна, маючы патрэбу ў бульбе, магла б у сваю чаргу пастаўляць Беларусі самы шырокі асартымент іншай агародніны.

Прастора для наладжвання трывалых эканамічных стасункаў у нашых дзяржаў ёсць. Застаецца адзінае — працаваць.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# НАРОДНЫЯ СТРОІ Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ МУЗЕІ

**У Дзяржаўным мастацкім музеі працуе выстаўка «Беларускі нацыянальны касцюм» (графіка, фота, паштовыя маркі).**

**Аўтар работ, прадстаўленых на выстаўцы, — Міхась Раманюк. Імя гэтага чалавека добра вядома тым, хто цікавіцца этнаграфіяй і фальклорам, як у нашай краіне, — так і за мяжой.**

**На выстаўцы экспануюцца фотаздымкі — і гістарычныя, сабраныя Раманюком, і выкананыя ім самім. На ўсіх — людзі, апранутыя ў касцюмы таго ці іншага рэгіёна Беларусі. Але самае значнае месца займаюць графічныя работы мастака — каляровыя малюнкі, разглядзеўшы якія, можна пазнаёміцца з асаблівасцямі народнага адзення амаль усіх раёнаў нашай краіны. Асабліва шмат работ прысвечана касцюмам Палесся: значную частку экспазіцыі займаюць малюнкі Маларыцкага і Давыд-Гарадоцкага строяў.**

**Акрамя фатаграфій і малюнкаў на выстаўцы дэманструюцца паштовыя маркі, на якіх — рэпрадукцыі з некаторых графічных работ Раманюка.**

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ:**
- **Міхась РАМАНЮК выступае на адкрыцці выстаўкі;**
- **маці мастака і яго дачка;**
- **адна з дэманструемых работ — «Маларыцкі строй. Касцюм нявесты. Сярэдзіна XX стагоддзя».**

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

*КРЫМІНАЛ*

## АХВЯРЫ П'ЯНЫХ РАЗБОРАК — ДЗЕЦІ

**Сямейнымі бойкамі, якія прыводзяць спрачальнікаў, падагрэтых спіртным, да трагедыі, сёння нікога не здзівіш. Такія разборкі здараюцца ўсё часцей, тых, хто загінуў ад іх, — усё больш. Але калі ахвярай дарослага, які разбушаваўся, аказваецца ні ў чым не вінаватае роднае дзіця...**

Калі раніцай 18 студзеня пасля п'янага скандалу гаспадара ў доме знайшлі труп яго аднагадовай дачкі, бацька растлумачыў здарэнне падзеннем Аксаны. Аднак на самай справе ўсё было не так. Будучы ў нецвярозым стане, ён два разы ўдарыў дзяўчынку галавой аб сценку. Ад атрыманай траўмы наступіла смерць. Пракуратура Сенненскага раёна ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да бацькі Аксаны, 24-гадовага рабочага саўгаса.

А ў Полацку бацька стаў забойцам яшчэ не народжанага дзіцяці. 23 студзеня ў бальніцу была дастаўлена цяжарная жанчына з пранікальным нажавым раненнем у жывот. Ёй зрабілі кесарава сячэнне, але, пражыўшы паўтары гадзіны, нованароджаны памёр. Як высветлілася, ноччу п'яныя муж і жонка паспрачаліся, і муж узяўся за нож...

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ДЗЕЙНІЧАЛІ ПРАФЕСІЯНАЛЬНА

**Некалькі ўдалых аперацый правялі на мінулым тыдні работнікі міліцыі ўпраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома. Вось некаторыя з іх.**

Дваццатага студзеня позна ўначы двое зламыснікаў напалі на непрацуючага А. Сцяпанава і, загнаўшы яму ў грудзі нож, авалодалі яго «Фольксвагенам» і ўсім, што было ў легкавушцы. Пацярпеўшы трапіў у бальніцу, і на наступны дзень у Савецкі райаддзел унутраных спраў ад яго паступіла заява. Аператыўную групу ўзначалілі намеснікі начальніка РАУС Ігар Хадзюкоў і Аляксандр Слесарэнка. Члены яе ўжо праз некалькі гадзін натрапілі на след аднаго са зламыснікаў — непрацуючага васемнаццацігадовага Канстанціна Б. і затрымалі яго.

А ў Калінкавічах міліцыянеры, як гаворыцца, узялі аматара калекцыяніраваць незарэгістраваную зброю, таксама нідзе не працуючага В. П. У яго доме была выяўлена баявая вінтоўка з сямю патронамі да яе і два ружжы. Следству зараз трэба ўстанавіць, на каго збіраўся паляваць уладальнік зброі.

Зараз дае паказанні следчым і 22-гадовы гвалтаўнік, які шляхам падману зацягнуў у лазню да свайго знаёмага прадаўшчыцу аднаго з камерцыйных кіёскаў Ж. К. і з прымяненнем фізічнай сілы і пагроз зрабіў сваю чорную справу.

А ўсяго за мінулы тыдзень міліцыя затрымала некалькі дзесяткаў чалавек, якія ўчынілі цяжкія злачынствы.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*З ЗАЛЫ СУДА*

## ВЯСКОВЫЯ РЭКЕЦІРЫ

**Дваццацівасьмігадовы М. Залатуха спакойна жыў у вёсцы Ветахма Докшыцкага раёна, працаваў трактарыстам у калгасе імя Якуба Коласа.**

**Усё змянілася пасля таго, як ён атрымаў спадчыну ад сваякоў, што жылі ў ЗША. Неяк, пасля паступлення долараў, да яго падышоў вучань 11 класа Докшыцкай вочна-завочнай школы В. Корсак, які жыве ў адной з ім вёсцы, і папрасіў пазычыць 45 долараў. Міхаіл Уладзіміравіч пры сабе такой сумы не меў, таму і адмовіў.**

Праз некалькі месяцаў пасля гэтага ён атрымаў пісьмо з патрабаваннем пакласці ў паштовую скрынку нежылога дома каля аўтазаправачнай станцыі ў г. Докшыцы 5000 долараў ЗША. У выпадку адмовы выканаць патрабаванне вымагальнікі пагражалі расправай. Праз некалькі дзён уладальнік спадчыны адвёз у назначанае месца патрабуемую суму. Пра вымаганне ў міліцыю не заявіў.

Як сведчыць следчая і судовая практыка, злачынцы на гэтым не супакойваюцца. Літаральна праз некалькі тыдняў М. Залатуху пазваніў па тэлефоне незнаёмы мужчына і запатрабаваў перадаць яшчэ 5200 долараў ЗША. Той выканаў і гэтае патрабаванне.

Месяц жыў спакойна. Але потым зноў прыйшло пісьмо, у якім было загадана выдаць яшчэ 5 тысяч долараў. Пры гэтым, гаспадар павінен быў пакінуць долары ў нежылым доме каля той жа аўтазаправачнай станцыі.

На гэты раз Міхаіл Уладзіміравіч здагадаўся напісаў заяву ў Докшыцкі РАУС.

Перадача долараў адбывалася па раней адпрацаванай схеме. Толькі Міхаіл Залатуха ў назначаны час выйшаў з указанага дома, як туды кінуліся двое хлопцаў. Работнікі Докшыцкага РАУС былі напагатове. Не паспелі вымагальнікі забраць долары, як былі затрыманы.

Імі аказаліся вучні 11 класа Докшыцкай сярэдняй вочна-завочнай школы В. Сідараў і В. Корсак.

Кропку ў гэтай крымінальнай гісторыі паставіў Докшыцкі раённы суд. Як сведчыць Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, за вымаганне, учыненае групай асоб, прадугледжваецца адказнасць да 7 гадоў пазбаўлення волі. З улікам таго, што непаўналетнія рэкеціры шчыра раскаяліся ва ўчыненым злачынстве, яны асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі кожны з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 2 гады.

Закон гаворыць, што калі яны не будуць выконваць ускладзеныя судом абавязкі ці будуць дапускаць парушэнні грамадскага парадку ці працоўнай дысцыпліны, дык па прадстаўленню органа ўнутраных спраў, камісіі па справах непаўналетніх ці працоўнага калектыва, на які ўскладзены абавязак па назіранню за асуджанымі і правядзенню з імі выхаваўчай работы, суд можа вынесці рашэнне аб адмене адтэрміноўкі выканання прыгавора да пазбаўлення свабоды і аб накіраванні асуджаных для адбывання пазбаўлення свабоды, назначанага судом. У выпадку ўчынення асуджанымі ў перыяд адтэрміноўкі выканання прыгавора новага злачынства суд далучае да новага пакарання раней назначанае.

**Лявон ГРАНКОЎСКІ,**
**старшы пракурор аддзела па нагляду за следствам у органах унутраных спраў.**

*СЁННЯ*

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.06 | 16.37 | 8.31 |
| Віцебск – | 8.02 | 16.22 | 8.20 |
| Магілёў – | 7.55 | 16.27 | 8.32 |
| Гомель – | 7.47 | 16.30 | 8.43 |
| Гродна – | 8.20 | 16.54 | 8.34 |
| Брэст – | 8.15 | 17.00 | 8.45 |

### МЕСЯЦ

Маладзік 20 студзеня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Ярмілы і Стратаніка, Елеазара, Пятра, Іакава

К. Цімафея, Ціта, Паўлы

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца халоднае надвор'е, пройдзе невялікі снег. Тэмпература паветра ў Гомелі, Магілёве — 9—11, Гродне, Віцебску, Мінску — 10—12, Брэсце — 11—13 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак характар надвор'я на тэрыторыі рэспублікі істотна не зменіцца.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 26 студзеня

У бліжэйшыя суткі надвор'е істотна не зменіцца. Утрыманне кіслароду ў паветры па-ранейшаму будзе вышэй за сярэднія шматгадовыя даныя. У такіх умовах захаваецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых, схільных да спастычных рэакцый.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, прытрымлівацца дыеты, прымаць «адцягваючую» тэрапію (цёплыя гідрапрацэдуры, самамасаж), а таксама заспакаяльныя і сасударасшыральныя лекавыя прэпараты.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

**Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда» выказвае шчырае спачуванне галоўнаму рэдактару газеты «Народная воля» Сярэдзічу Іосіфу Паўлавічу з выпаду напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

